*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 4 (164) ◈ 26 студзеня 1994 г. ◈ Кошт — 20 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ

***У МЕНСКУ АДБЫЛАСЯ АФІЦЫЙНАЯ СУСТРЭЧА ВАЕННЫХ ДЭЛЕГАЦЫЙ БЕЛАРУСІ І УКРАІНЫ.** У рамках пагаднення, падпісанага ў снежні 1992 года паміж міністэрствамі абароны дзвюх краін, абмеркаваны і адобраны план супрацоўніцтва на 1994 год.*

***БОЛЬШ ЗА ТЫДЗЕНЬ НАЗАД ЛІТОЎСКІЯ СПЕЦСЛУЖБЫ** вывезлі з Беларусі двух былых лідэраў кампартыі Літвы, якіх абвінавачваюць у спробе дзяржаўнага перавароту 13 студзеня 1991 года. Амаль увесь мінулы тыдзень беларускі парламент узрушвала дыскусія вакол гэтай падзеі, але ніхто ў адстаўку не пайшоў. Тайнае галасаванне па пытанні аб адстаўцы Ягорава і Шыркоўскага было перанесена на 25 студзеня.*

**«БОЛЬШАЙ БЕСТАЛКОЎШЧЫНЫ Ў МАСАВЫМ МАШТАБЕ Я НІКОЛІ РАНЕЙ НЕ БАЧЫЎ»,** — так ахарактарызаваў падзеі мінулага тыдня, што разгортваліся за зачыненымі дзвярыма парламента, лідэр БНФ Зянон Пазьняк.

***У АДНЫМ З АПОШНІХ НУМАРОЎ «ЗВЯЗДЫ»** змешчана прадказанне аднаго з экспертаў газеты наконт аб'яднання грашовых сістэм Беларусі і Расіі. У прыватнасці, у ім гаворыцца: «З узмацненнем у Расіі лобі Чарнамырдзіна, шанцы прыхільнікаў аб'яднання грашовых сістэм значна павысіліся. Аднак нават калі і будуць падпісаны ўсе неабходныя дакументы — рэальнага аб'яднання ўсё роўна не адбудзецца. У Расіі не хапае наяўнасці, нам таксама не хопіць. Расійскія знакі пры першапачатковым адначасовым хаджэнні з «зайчыкамі» будуць, як больш каштоўныя і перспектыўныя, прыхоўвацца. Што ж датычыць маркуемых роўных для двух бакоў цэн, то гэта таксама вельмі праблематычна. Тыя ж энерганосьбіты пакуль дойдуць да нас, значна падымуцца ў цане «дзякуючы» пасрэднікам. Увогуле, дружба дружбай, але наўрад ці Расія пойдзе, па сутнасці, на датацыі беларускай эканомікі, прычым вельмі значныя. Якім бы шчырым прыхільнікам аб'яднання ўрад Чарнамырдзіна ні быў, эканамічная логіка возьме сваё».*

***ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ПРЫНЯЎ РАШЭННЕ** аб вызваленні ад абавязкаў пастаяннага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Генадзя Бураўкіна. На гэтую пасаду прызначаны Аляксандр Сычоў, які дагэтуль быў намеснікам міністра замежных спраў Беларусі. Павел Калаўр, кіраўнік аддзялення Белаграпрамбанка Валожына, рашэннем Прэзідыума Вярхоўнага Савета прызначаны намеснікам старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі.*

*Але!*

## Не хапае кампрамату? Дапамогуць эмоцыі

Відаць, не адзін я звярнуў увагу, што, робячы свой даклад супраць прадажнага чыноўніцтва, дэпутат Вярхоўнага Савета А. Лукашэнка пастараўся кінуць цень таксама амаль на ўсіх дэпутатаў, якія мелі неасцярожнасць калі-небудзь выступіць пабеларуску. Тут папрокі, напрыклад, за наяўнасць легкавушкі, кватэры. Цікава, ці сам спадар Лукашэнка мае кватэру? Ці жыве ён у будане, ездзіць на валах? Відаць, разлік у Лукашэнкі такі: калі любы сумленны чалавек з'яўляецца для яго ворагам, то вярні на таго хоць якую бязглуздзіцу, абы запэцкаць перад недасведчанымі людзьмі. Напэўна, кожны, хто ўважліва азнаёміўся з дакладам, адчуў, што аніякага кампрамату, напрыклад, на Станіслава Шушкевіча А. Лукашэнка знайсці не здолеў. Таму дэпутат інкрымінаваў Старшыні Вярхоўнага Савета нават тое, што Прэзідыум Вярхоўнага Савета рэспублікі раздаў (?) каля 200 га зямлі, а сам Станіслаў Станіслававіч правёў «дробны» рамонт жылля не прыватнікамі, а дзяржаўнай рамонтнай брыгадай. За ўласныя, удакладнім, грошы.

Такім чынам дробязнае, другаснае змешваецца з сапраўды жудаснымі фактамі «прыхватызацыі» і прадажнасці ў асяродку вышэйшай дзяржаўнай улады і пры тым яшчэ назіраецца імкненне хоць нейкім чынам запэцкаць у бруд шчырых беларускіх патрыётаў, якія ў любы момант для свайго народа гатовы аддаць не толькі ўласныя працоўныя набыткі, але і жыццё. На падобныя фокусы здольны хіба толькі ці «сыны юрыста», ці тыя, хто спрабуе ўратаваць ад народнага суда сапраўдных вінаўнікаў нацыянальнай бяды і разору. Суайчыннікі, памятайце, што «жырыноўскія» здольныя давесці люд да торбы, канцлагераў і расстрэлаў.

А. БЕЛАКОЗ.

**«Стрыптыз» Вуячыча ў Канцэртнай зале імя Чайкоўскага** стар. 2.

***«Засакрэчаны аб'ект»... у Белдзяржуніверсітэце*** стар. 3.

*АЛЕ!*

*У пачатку пяцідзесятых гадоў нейкі не то мясцовы, не то раённы чыноўнік ад наменклатуры рашыў, што нягожа адной з буйнейшых вёсак на Случчыне мець дадзеную далёкімі прашчурамі назву Старцавічы (пайшла, па водгуках старажылаў, ад слова «старына»: паблізу была рачная лукавіна). Чыноўнік, якога прывучылі ўсё ў жыцці мераць на марксісцка-ленінскі «капыл», убачыў у старой назве «класавы» ўхіл: маўляў, яна пайшла ад слова «старац» — жабрак, значыць.*

*А паколькі тутэйшы калгас меў пралетарскі тытул «Прамень камуны», то чыноўнік, не раячыся з вяскоўцамі, прыляпіў вёсцы новую назву — Знамя. Мала, што рускамоўную, дык яшчэ і недарэчную. Уявіце сабе вёску «Ордэн», «Герб», «Медаль». Абсурд!*

людзям назва вёскі, беларускія традыцыі — пусты гук, нейкая моўная абстракцыя.

Нешта падобнае здарылася і ў вёсцы Сорагі. Дэпутаты мясцовага сельсавета выказалі жаданне замяніць назву тутэйшага калгаса «III Інтэрнацыянал», прышпіленую па камандзе «зверху», без згоды калгаснікаў. Хто з іх ведаў тады, што міжнародная камуністычная суполка пад такой назвай была распушчана яшчэ вясной 1943 года, таму што, на думку крамлёўскіх улад, не садзейнічала збліжэнню антыфашысцкіх сіл у барацьбе з фашызмам. Як кажуць па-руску,— «канула в лету». Але толькі не для сорагаўскіх прыхільнікаў пракамуністычнай абрэвіятуры. А паколькі тут дэпутаты спіхнулі пытанне замены назвы сходу ўпаўнава-

# А ХТО ТАМ ІДЗЕ... ПАД «ЗНАМЕНЕМ»

Нядаўна дэпутаты Знаменскага (?) сельсавета задумалі на сесіі вярнуць вёсцы старую назву. Погляды падзяліліся: адны — за, другія — супраць. Рашылі правесці народнае апытанне. Стварылі адпаведную камісію. Члены яе прайшлі па дварах і выслухалі погляды дарослых жыхароў. І што вы думаеце? Без малога 84 працэнты вяскоўцаў, у асноўным тых, хто вырас пад «Знаменем», выказаліся супраць замены. І толькі 14 працэнтаў, у асноўным пенсіянеры, для каго старая назва дарагая ўспамінамі маладосці, дзяцінства, пажадалі замены. Паміж іншым, кожнаму зразумела, што навязаная прымусова назва ўвасабляе ўсё той жа «сярпаста-малаткасты», пад якім адсюль у 30-я гады адпраўлялі на высылку ў Котлас няшчасных сялян з кляймом «кулак».

Памкнуліся дэпутаты вярнуць старую назву — Баславічы — вёсцы Барок. І тут яе жыхарам не хапіла мудрасці ўшанавання сваіх каранёў — большасцю галасоў аддалі перавагу Барку. Яно і не дзіва: большасць жыхароў у вёсцы — так званыя «прыезджыя» з ліку перасяленцаў ледзь не з усяго, як кажуць, свету. Іх прымалі не ад добрага жыцця: вёска год ад году старэла, моладзь разбяглася па гарадах ды па ўсяму «Саюзу нерушымых», вось і бралі рабсілу, хто патрапіць. Такім

жаных калгаса, то зыход галасавання быў не лепшым: большасць паслухалася тых дэмагогаў, хто заяўляў, што ад замены «малака і мяса» не прыбавіцца, што «людзі прывыклі да назвы». Дэмакратычным такое апытанне не назавеш, паколькі невядома, што б сказалі радавыя земляробы, асабліва тыя, чые дзяды і прадзеды і іх сем'і згінулі ў балотах Пінегі і лясах Котласа, а такіх па сельсавету набярэцца каля паўсотні. Хоць бы іх уважылі — пасмяротна.

Дагэтуль на Случчыне амаль нічога не зроблена ў замене назваў многіх калгасаў, атрымаўшых «выведкі» ў гады таталітарызму. Тры гаспадаркі носяць партыйны псеўданім У. Ульянава, яшчэ шэраг — провізшчы Калініна, Дзяржынскага, Кірава, Куйбышава, Арджанікідзе, заснавальнікаў камуністычнага руху — Энгельса і Маркса. Ёсць нават калгас імя 16 партыйнага з'езда — таго самага, з якога пачалася прымусовая калектывізацыя і раскулачванне. І доўжыцца здзек над памяццю многіх соцень слуцкіх земляробаў, што бясследна згінулі пасля таго «пераломнага» бальшавіцкага з'езда!

г. Слуцк.

М. ТЫЧЫНА, ветэран вайны і працы.

# АДКРЫТЫ ЛІСТ

*Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь*
*спадару В. ШАЛАДОНАВУ*
*Старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі*
*па адукацыі, культуры і захаванні*
*гістарычнай спадчыны спадару Н. ГІЛЕВІЧУ*
*Міністру адукацыі Рэспублікі Беларусь*
*спадару В. ГАЙСЁНКУ*

*У Менску 14—16 снежня 1993 г. праходзіла міжнародная канферэнцыя «Адукацыя XXI стагоддзя. Праблемы павышэння кваліфікацыі работнікаў адукацыі».*

*Аргкамітэт зацвердзіў рабочымі мовамі канферэнцыі рускую і англійскую.*

*Тэзісы на дзяржаўнай мове не прымаліся. Іх прапаноўвалася падаваць толькі на рускай альбо англійскай. З вялікімі цяжкасцямі ўдалося дамагчыся ўключэння тэзісаў майго даклада «Нацыянальная мова як аснова развіцця вышэйшай школы» на дзяржаўнай (беларускай) мове...*

*Але выступіць на канферэнцыі з дакладам я не змог, бо мае чатырохразовыя просьбы да арганізатараў прыняць рабочай мовай разам з рускай, англійскай і беларускую былі праігнараваны намеснікам старшыні канферэнцыі рэктарам Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі А. Жуком і прарэктарам па навукова-метадычнай рабоце Б. Пальчэўскім.*

*У знак пратэсту супраць дыскрымінацыі правоў чалавека і непавагі да законаў Рэспублікі Беларусь я пакінуў секцыю, якую ўзначальваў прафесар Б. Пальчэўскі.*

*У сябе на Радзіме, у сталіцы Беларусі мяне пазбавілі права гаварыць аб прафесійных праблемах адукацыі XXI стагоддзя на дзяржаўнай мове!*

*Звяртаюся да вас, шаноўныя дзяржаўныя дзеячы Рэспублікі Беларусь: абараніце не толькі мае асабістыя правы, а і правы цэлага народа, імя якога беларусы, мець магчымасць гаварыць на дзяржаўнай мове.*

*Пытанне: да якой пары большасць кіруючых асоб (у нашым выпадку справа ідзе аб адукацыі) будуць груба, а ў асобных выпадках цынічна ігнараваць законы Рэспублікі Беларусь.*

*1. Артыкул 68, частка чатыры Канстытуцыі Беларускай ССР: «Дзяржаўнай мовай Беларускай ССР з'яўляецца беларуская мова»;*

*2. Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, артыкул 1; «...дзяржава ўсталявала дзяржаўнасць беларускай мовы; артыкул 9: «...дзяржава забяспечвае функцыянаванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця»;*

*3. Закон аб адукацыі, артыкул 6 — мовай выхавання і навучання з'яўляецца беларуская мова;*

*4. Закон аб мовах. Як вядома, з 1 верасня 1993 г. уведзены ў дзеянне ў пэўным аб'ёме артыкулы: 27 «Мова ў сферы навукі»; 28 «Мова ў сферы культуры»; 29 «Мова сродкаў масавай інфармацыі».*

Мікола САВІЦКІ,
старшыня Менскай гарадской
Рады Таварыства беларускай
мовы імя Ф. Скарыны, прафесар.

# *Дай ты, пане, рады!*

*Не сакрэт, што вырашэнне беларускага пытання залежыць не ў апошнюю чаргу ад нашых вярхоўных улад і іх першых асоб. Захоча Кебіч стаць беларусам — і ўсё чыноўніцтва краіны ўмомант загаворыць па-наску, а значыць, будзе змыта галоўная плаціна-перашкода на шляху да натуральнага адраджэння беларускай мовы.*

*Аднак наўрад ці таварыш Кебіч здольны на гэта, калі ён не стрымаў слова, публічна дадзенага на II з'ездзе ТБМ.*

*Іншая справа — спадар Шушкевіч, які паслядоўна выступае за Беларушчыну. Хаця... паслядоўна, ды не зусім. Напэўна, шмат хто звярнуў увагу на невялікую замінку пры абмеркаванні Асноўнага Закона ў парламенце, а менавіта раздзела аб Вярхоўным Савеце. Не памятаю, хто дакладна з апазіцыі, але, здаецца, Лявон Баршчэўскі выказаў нязгоду з самой назвай раздзела і прапанаваў яго назваць «Вярхоўная Рада», бо ў нашай мове няма слова «савет».*

*Вельмі мяне здзівіла рэакцыя Станіслава Станіслававіча. Ён з адценнем лёгкай прыкрасці да неўтаймоўнага апазіцыянера растлумачыў, што хаця слова «савет» і сапраўды няма ў беларускай мове, аднак мы ўсе і ўвесь наш народ настолькі прывыклі да яго, што проста неразумна было б зараз драбязнічаць і нешта там мяняць у назве вярхоўнага органа дзяржавы.*

*Ну і пас! Ну і довад жа ў спадара Шушкевіча! А ці ж мала да чаго прывык і ад чаго адвык народ? Прывык да слоў «совет», «ленинским курсом», «ум, честь и совесть», прывык гаварыць так, як «трэба» ці лепш маўчаць, прывык падпарадкоўвацца, прыніжацца, лічыць сябе «простым советским человеком».*

*Адвык лічыць сябе беларусам, адвык ад сваёй мовы. Дарэчы, слова «савет», якраз, не так ужо і прыжылося. «Давай» параімся», «А дай ты, пане, рады!» — гэта звычайныя, жывучыя выразы. І сп. Шушкевіч жа кажа: памяркоўна, не «давайце пасаветуемся», а — параімся.*

*Дык што ж цяпер — усё закансерваваць, адмовіцца ад надзеі вярнуцца да сваіх каранёў? Чаму гэта мы не можам вярхоўны орган улады Беларусі назваць па-беларуску? Калі ўсё замежнае гучыць больш мілагучна, то чаму не назваць нашу Раду якім-небудзь ландтагам ці як там яшчэ па-японску?*

*Цяпер, калі спадара Шушкевіча крытыкуюць справа і злева за залішняе імкненне да «кансэнсусаў», я думаю: а, мо, і праўда, занадта? Ва ўсякім разе, у пытаннях Адраджэння ісці на кампрамісы ніяк нельга, хіба што на карысць яму. Напрыклад, прыняць Асноўны Закон на любай цяперашняму парламенту расійскай мове, а затым перакласці тэкст на мову нашай дзяржавы. І раздзел «Вярхоўны Савет» атрымаў бы, натуральна, беларускую назву: «Вярхоўная Рада Рэспублікі Беларусь».*

А. БУБАЛА.
г. Верхнядзвінск.

*АЛЕ!*

# «СТРЫПТЫЗ» ВУЯЧЫЧА
## ў Канцэртнай зале імя Чайкоўскага
### (з нагоды канцэрта да дзён культуры Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі)

*Маскоўскія беларусы былі на шмат якіх канцэртах беларускіх майстроў у Маскве. Можна прыгадаць і «Беларусь маю сінявокую» ў бээсэсэраўскія часы, і канцэрты, прысвечаныя Дню Волі і Дню Незалежнасці, і імпрэзы з нагоды юбілеяў беларускіх пісьменнікаў. І заўсёды іх адметнай рысай быў высокі культурны і эстэтычны мастацкі ўзровень. Але тое, што адбылося ў Маскве 12 лістапада мінулага года ў Канцэртнай зале імя Чайкоўскага, інакш як нейкім сексуальна-антыбеларускім шабашом В. Вуячыча не назавеш.*

Перадгісторыя гэтай падзеі такая. Большасць канцэртных залаў у Маскве пустуе, асабліва калі няма добрай рэкламы па радыё і тэлебачанні. Таму тыдні за два да канцэрта беларускіх артыстаў прадстаўнік рэгіянальнага аддзялення «Бацькаўшчыны» А. Глод сумесна з актывістамі беларускай дыяспары заклікалі маскоўскіх беларусаў прыйсці на канцэрт, падтрымаць суродзічаў. Менавіта таму прыблізна 90 працэнтаў людзей, што прысутнічалі на імпрэзе, былі менавіта беларусамі. Людзі прыйшлі з сем'ямі, каб паслухаць розную беларускую песню. Аднак канцэрт не ўдаўся па многіх прычынах. Была парушана яго праграма (у прыватнасці, адсутнічала група «Палац»), былі спевы пад фанаграму пры адключанай апаратуры, з якой чуўся толькі трэск (што часам нагадвала клаунаду). Высветлілася, што сцэна і асвятленне не былі прыстасаваны да дыскатэчных рускамоўных рытмаў маладых выканаўцаў. А галоўнае, канцэрт быў антыбеларускім па сваёй сутнасці.

Напачатку выступілі ансамбль «Купалінка», а таксама спявак Іван Краснадубскі, якому акампаніраваў сам Ігар Лучанок. Гэтыя выступленні вельмі спадабаліся публіцы. Аднак затым з падачы В. Вуячыча распачаўся рускамоўны «Осенний стрептиз». Здзівіў нізкі, правінцыяльны ўзровень гэтага «дзейства». Стала відавочна, што чыноўнікі з Міністэрства культуры РБ не зразумелі, што беларуская эстрада можа зарабляць грошы і ўвогуле хваляваць гледачоў толькі нацыянальнай самабытнасцю, і што рускамоўную песню расійцы заўсёды праспяваюць лепш за беларусаў. Здзек з Беларусі на канцэрце цягнуўся цэлую гадзіну. Людзі, якія прыйшлі на сустрэчу з беларускай песняй, асабліва старэйшага ўзросту, пакідалі залу. Канчаткова ж «чару цярпення» перапоўніў нейкі Бескаравайны. Са сцэны ён пачаў даводзіць маскоўскім беларусам, якая брыдкая ў іх мова. Чаго тут толькі не было: і «здыхлік неўміручы», і «прэзідэнт Буш і афіцыйныя *твары*» (гэта замест *афіцыйныя асобы*), і «сняданак *валацугі*» (замест «сняданак *вандроўніка*»). З дадаткам, што ўсе беларусы — валацугі, і іншае ў тым жа плане. На каго быў разлічаны гэты «канцэрт» — на расійскага люмпена ці на сібірскага мядзведзя? То яны ж на канцэрты не ходзяць. А культурныя расіяне ўспрынялі з агідай такое «распрананне» пустой душы. Група маскоўскіх беларусаў папрасіла арганізатараў канцэрта спыніць здзек з Беларушчыны, а таксама з нацыянальнай годнасці прысутных у зале беларусаў. Адказны ад «Бацькаўшчыны» спадар Глод і артысты толькі казалі: «Мы не вінаваты, гэта ўсё Вуячыч». Калі ж прадстаўнікі беларускай дыяспары заявілі Вуячычу свой пратэст, то «маэстра» абазваўся да іх з пагардай: «Выйдите вон, вы пьяны, я не желаю с вами разговаривать!» Хутчэй за ўсё на пракамуністычнай Беларусі такі адказ падзейнічаў бы, але не ў дэмакратычнай Расіі. У выніку выканаўцы правялі заключную частку канцэрта не па плану Вуячыча. Ігар Лучанок у прысутнасці апошняга сказаў: «Прабачце, калі ласка, калі б я рабіў гэты канцэрт, такой ганьбы не было б». «Верасы» і асабліва «Сябры» здолелі ў канцы вечара палепшыць настрой публікі. У выкананні Ярмоленкі і яго гурта прагучалі яшчэ нячутыя ў Маскве «Беларуская полька» і «Авэ Марыя» на словы Зянона Пазьняка. Публіка ім апладзіравала і падпявала.

Пасля канцэрта да актывістаў беларускіх арганізацый падыходзілі людзі — дзякавалі за тое, што ўмяшаліся.

Але горкі асадак застаўся. Менавіта таму і накіроўваем гэты ліст у «Наша слова». Што да Вуячыча, то яму цяпер, калі зноў пажадае наведаць Маскву з гэтакім канцэртам, тухлыя яйкі гарантаваныя.

P. *S*. Неўзабаве, у канцы лістапада, адбылася перадача па радыё «Свабода». Менскі карэспандэнт даў блытаную інфармацыю пра гэтую падзею, спаслаўшыся на аўтарытэт Ганны Сурмач. У далейшым шаноўнай беларускай рэдацыі «Свабода» раім атрымліваць інфармацыю з першакрыніц.

Актыў беларускіх
суполак Масквы.

Ад ініцыятыўнай групы па стварэнню рэгіянальнага аддзела «Бацькаўшчыны».

Ігар Паўлоўскі (198-59-73), сябра ініцыят. гр., Рады Таварыства бел. культуры, сябра Рады "Бацькаўшчыны"
(Іваноў В.)
Г. Рыпекоўская [186-29-40) → дала згоду па тэлефоне (з'язджала на Беларусь)
[А. БУКА]

Ад Маскоўскага Таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны.

(Папоў С. А)
(Загрышева Ф. И)
(Краніўніцкая) 942 42 77
(А. А. Бабарэка) 336-45-94 (х)
(Г. Я. Лех) 487-29-64 (х)
А. С. Шпака
(Мішканка) 129 48 14 (х)
(Касьянчык) 1590326 х.
(Кацяра)
Курыс А. П. 541-18-93
Шлапай 126-39-20
Курыс Я. А. 541-18-93
А. Мищенко
(Гокуант-Казарын) 470-58-24
Цагельнікаў А. С. 355-93-01
(Копчинская) 252-63-43

# «ЗАСАКРЭЧАНЫ АБ'ЕКТ»... У БЕЛДЗЯРЖУНІВЕРСІТЭЦЕ

*У мінулым годзе была змешчана інфармацыя «Інстытут мовазнаўства сёння» (№ 47, 1993 г.). Матэрыял не застаўся не заўважаным. Рэдакцыя атрымала просьбы чытачоў у падобным плане расказаць пра іншыя асяродкі філалогіі вышэйшай школы Беларусі. Было вырашана следам даць разгорнутыя звесткі пра філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта — галоўнай кузні выкладчыкаў і адначасова даследчыкаў у галіне айчыннага мовазнаўства. І раптам нечаканасць: загадчыкі факультэцкіх кафедраў на пасяджэнні дэканата выказаліся супраць таго, каб даць «Нашаму слову» такую інфармацыю.*

*Філфак БДУ яшчэ адзін «засакрэчаны» аб'ект? Карэспандэнт «Нашага слова» звярнуўся за тлумачэннямі ў Міністэрства адукацыі. Там запэўнілі: ніякіх сакрэтаў ад грамадскасці ў беларускіх вышэйшых навучальных установах няма. Згадзіўся пагаварыць пра справы філфака і ягоны дэкан, член-карэспандэнт АН Беларусі Алег Антонавіч Лойка.*

*Адначасова, улічваючы нечаканасць сітуацыі, карэспандэнт вырашыў пагутарыць наконт філалогіі ў Белдзяржуніверсітэце з ягоным прарэктарам па навуцы, прафесарам Анатолем Іванавічам Лесніковічам.*

## Прафесар Алег ЛОЙКА:

## ФІЛФАК — АДНА З КЛЮЧАВЫХ НАВУКОВЫХ ПЛЯЦОВАК НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ФІЛАЛОГІІ

*— Алег Антонавіч, філалагічны факультэт БДУ — гэта кузня грунтоўна падрыхтаваных кадраў — не толькі выкладчыкаў, але і вучоных, якія будуць працаваць над моўнымі праблемамі. Цікава даведацца пра структуру філфака, пра тое, якія змены тут адбыліся апошнім часам.*

— Да мінулага года існаваў падзел філалагічнага факультэта на два аддзяленні: беларускай мовы і літаратуры і рускай мовы і літаратуры. З гэтага года студэнты першага курса вучацца ўжо, хто на аддзяленні беларускай філалогіі, а хто на аддзяленні зарубежнай філалогіі. Набралі таксама групу студэнтаў, якія стануць спецыялістамі ў вобласці класічнай філалогіі, у прыватнасці лацінскай і грэчаскай. Рыхтуем ужо спецыялістаў па дзвюх спецыяльнасцях: беларускай мове і літаратуры і польскай мове і літаратуры. З наступнага года плануем набраць групу студэнтаў для навучання нямецкай мове і літаратуры. Думаецца, што нашай рэспубліцы вельмі патрэбныя такія кадры...

*— Але шмат спецыялістаў па германістыцы выпускае Лінгвістычны універсітэт. Ці ёсць такая неабходнасць на філфаку?*

— Уся розніца ў тым, што Лінгвістычны універсітэт рыхтуе выкладчыкаў замежных моваў, а мы — філолагаў. Гэта задача не на адзін год. Нацыянальная праграма па філалогіі прадугледжвае развіццё не толькі руска-беларускай філалогіі або польска-беларускай, але і неабходнасць на Беларусі сваіх літуаністаў, арабістаў, знаўцаў японскай, кітайскай філалогіі і г. д.

*— Нядаўна рускамоўныя дысцыпліны пераважалі над беларускамоўнымі. Колькі ўвогуле кафедраў на факультэце?*

— Трынаццаць. Раней было дзесяць. Адкрылі тры новыя кафедры і, такім чынам, больш пляцовак для развіцця нашай нацыянальнай філалогіі. Была адна кафедра беларускай літаратуры, а цяпер існуюць дзве: кафедра беларускай літаратуры XX стагоддзя і кафедра тэорыі і гісторыі беларускай літаратуры. Кафедра беларускай мовы таксама падзелена на дзве: сучаснай беларускай мовы і гісторыі беларускай мовы. Раней існавала дзве кафедры рускай літаратуры: класічнай і рускай савецкай літаратуры. Яны аб'яднаныя ў адну — кафедру рускай літаратуры. Ёсць кафедра рускай мовы як замежнай. Там навучаюцца замежныя студэнты, частка з якіх падахвоцілася вывучаць і беларускую мову. З 13 кафедраў па сутнасці рускамоўных цяпер толькі тры. Раней было сем рускамоўных і толькі тры беларускамоўныя.

*— Белдзяржуніверсітэт займаецца не толькі выкладаннем пэўных дысцыплін, але і даследаваннямі. Чым адрозніваюцца даследаванні вашых супрацоўнікаў ад таго, што робіцца ў Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі? Вы канкурыруеце з імі ці супрацоўнічаеце?*

— Адразу хачу ўдакладніць, што ў Акадэміі ёсць Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы і Інстытут мовазнаўства. Нашы моваведы перш за ўсё супрацоўнічаюць з Інстытутам мовазнаўства, а літаратары падтрымліваюць самыя непасрэдныя кантакты з Інстытутам літаратуры. Задачы ў нас розныя. Яны займаюцца паглыбленым вывучэннем чагосьці, а мы не толькі вывучаем, але яшчэ і выкладаем. Супрацоўнікі Акадэміі навук Беларусі, як правіла, у нас працуюць.

*— Як даследчыкі ці ў якасці «чыстых» выкладчыкаў?*

— Не. Крышачку ўдакладнім: кожны выкладчык не толькі чытае лекцыі, але мае і навуковую тэму, над якой працуе.

*— А цяпер крыху пра фінансавы бок. Ці дастаткова тых грошай, якімі забяспечваецца ў вас навуковая праца?*

— Філфак знаходзіцца на універсітэцкім бюджэце. Апошнія 2—3 гады мы мелі дадатковае фінансаванне з Міністэрства адукацыі. Былі створаны чатыры даследчыцкія групы з чатырох кафедраў. Мы давалі заяўкі на пэўную тэматыку ў Міністэрства, і нам адпускалі грошы. Пачыналі такую работу ў 1991 годзе. Планавалі на пяцігодку. Але ў 1993 годзе фінансаванне спыняецца. Закрылі тэмы. Цяпер мы пішам справаздачы за тыя тры гады. Нам прапанавана ўзяць новыя тэмы. На дадатковым фінансаванні ў нас было дзве лабараторыі: лабараторыя беларускай фалькларыстыкі і дыялекталогіі і лабараторыя тэарэтычнай і прыкладной лінгвістыкі. Там працуе невялікі штат, у сувязі з бракам сродкаў на яго ўтрыманне.

*— А як улічваецца беларускамоўная тэматыка пры размеркаванні сродкаў?*

— У нас уся тэматыка беларускамоўная. Праўда, у лабараторыі тэарэтычнай і прыкладной лінгвістыкі (навуковы кіраўнік яе У. А. Карпаў) рабілі лемантар па рускай літаратуры. Цяпер яны ўжо напалову падрыхтавалі беларускі. Але на далейшую працу грошай няма, трэба шукаць спонсараў. Ва універсітэце па розных прычынах мы абдзелены грашыма. Каб Вы зірнулі на тое, як у працэнтных адносінах размеркаваны былі грошы на навуку ў нашым універсітэце за мінулы год, то Вы б адразу ўбачылі, што не толькі мы, філфак, але і ўсе гуманітарныя факультэты прадаўжалі фінансавацца па астаткаваму прынцыпу. Рэктарат абвінавачвае нас, філфакаўцаў, што мы не прапануем тэмаў, не выходзім з заяўкамі ў Міністэрства адукацыі. Але шмат якія нашыя тэмы не лічацца нефілолагамі фундаментальнай навукай. І ўвогуле, за тыя марныя грошы, якія нам выдзяляе Міністэрства адукацыі і рэктарат, займацца фундаментальнай філалагічнай навукай наўрад ці хто змог бы. Так і жывём. Хоць гэта не значыць, што філфак не з'яўляецца і на сёння адной з ключавых навуковых пляцовак нацыянальнай філалогіі. Але за тое, што мы друкуем, а друкуем мы ўсё ж багата, мы даўно ўжо атрымліваем толькі сімвалічную плату. Дакладней сказаць, друкуем «gracio» (за дзяку.— Рэд.), бо не пісаць, не развіваць філалогіі мы не можам, тым больш у атмасферы адраджэння. Так і жывём.

Распытвала
Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.

## Прафесар Анатоль ЛЕСНІКОВІЧ:

## ГРОШЫ МЕЦЬ ЖАДАЮЦЬ, А ДЗЕ НАВУКА І ТВОРЧАСЦЬ?

*— Анатоль Іванавіч, хацелася б даведацца, як размяркоўвае рэктарат фінансавыя сродкі паміж факультэтамі Белдзяржуніверсітэта. Якія крытэрыі пры гэтым улічваюцца? Няўжо філалогія ходзіць Папялушкай?*

— Я хачу падкрэсліць, што пяцьдзесят працэнтаў фінансаў размяркоўвае Міністэрства адукацыі па тэмах, якія заяўляюцца вышэйшымі навучальнымі ўстановамі. У сувязі з гэтым факультэты, асобныя кіраўнікі навуковых работ выходзяць з хадайніцтвам як у Міністэрства адукацыі на фінансаванне сваіх даследаванняў, так і ў рэктарат, які таксама валодае 50 працэнтамі гэтых сродкаў. Вось такая фінансавая сітуацыя. Такім чынам, маецца магчымасць атрымаць грошы з міністэрства і непасрэдна ва універсітэце. Але для таго, каб вас «пачулі», трэба прайсці конкурс. Напрыклад, работы па хіміі напраўляюцца на экспертызу ў секцыю хіміі і хімічнай тэхналогіі пры нашым Міністэрстве адукацыі, якую ўзначальваю я. На аснове рэцэнзіі членаў секцыі і другіх вучоных, якіх мы для гэтай работы прыцягваем, робіцца выснова — фінансаваць або не фінансаваць дадзеную навуковую працу. Такім чынам, тэмы, якія заяўлены ў міністэрства, праходзяць конкурсны адбор. Тэмы, якія заяўляюць кафедры, навуковыя супрацоўнікі на універсітэцкае фінансаванне, таксама адбіраюцца конкурсна.

*— А якія пры гэтым крытэрыі?*

— У нас распрацавана Палажэнне аб конкурсе навуковых работ, якія прэтэндуюць на фінансаванне. Трэба заявіць добрую работу. Калі пачынаем разглядаць навуковыя работы, то, зразумела, перш-наперш аналізуем, наколькі гэтая праца сапраўды фундаментальная, які накірунак яна мае. Калі, скажам, гэта чыста педагагічны накірунак, напрыклад напісанне вучэбных дапаможнікаў, падручнікаў для школ, то для гэтых работ мы не маем права накіроўваць фінансавыя сродкі, якія выдзелены універсітэту, я падкрэсліваю, на фундаментальна-навуковыя даследаванні. Калі гаварыць далей, якімі крытэрыямі мы кіруемся, то гэта ўжо нашы ўнутраныя справы. Напрыклад, мы аналізуем, ці працуюць студэнты на аплачваемых пасадах, як сумяшчальнікі, таму што мы павінны прыцягваць моладзь да навуковай працы. У нас толькі што прайшла праверка расходавання бюджэтных сродкаў, якую рабіў інспектар Міністэрства адукацыі. Па выніках рэвізіі атрымоўваецца, што факультэты не вельмі прыцягваюць студэнтаў і асабліва, падкрэсліваю, гуманітарныя. У нас як сумяшчальнікі працуюць амаль 250 студэнтаў па ўсяму універсітэту, з іх па гуманітарных факультэтах толькі 6.

*— І якая таму прычына?*

— Усё вельмі проста. Выкладчыкі і навуковыя супрацоўнікі лічаць, што лепш самім атрымоўваць грошы, розныя надбаўкі, чым прыцягваць студэнтаў. Гэта мы таксама ўлічваем пры размеркаванні фінансаў. Філфаку, а іменна лабараторыі беларускай фалькларыстыкі і дыялекталогіі, мы нават спецыяльна дабавілі сродкі, каб яны залічылі студэнтаў. Практычна гэтыя шэсць студэнтаў на гуманітарных факультэтах і ёсць студэнты філфака. Але ж на сродкі, якія мы выдзелілі дадаткова! Гэта прынцыповы момант. Таму што ёсць рашэнне вучонага савета універсітэта, каб 10 працэнтаў ад тых сродкаў, якія выдзяляюцца на навуковую работу, ішлі менавіта на студэнтаў і аспірантаў, каб больш спрыяць прыцягванню іх да навуковай работы, і каб яны карысталіся гэтымі сродкамі. Але гэтае рашэнне, як бачна, не выконваецца. І іменна перш за ўсё гуманітарнымі факультэтамі.

Далей аналізуецца пытанне, ці з'яўляецца заяўленая тэма фундаментальнай работай. Тыя прапановы, і аб гэтым неаднакратна гаварыў рэктар на вучоным савеце, якія ідуць з нашага філфака, вельмі часта не адпавядаюць патрабаванням фундаментальнай навукі. Скажам, прапаноўваецца работа дацэнта Кароткага «Выяўленне, збор, падрыхтоўка да друку і каменціраванне старабеларускіх тэкстаў XI—XVII стст.». Я лічу, вельмі добрая работа. Але яна прапанавана пасля таго, як мы са спадаром Кароткім разы тры абмяркоўвалі гэтае пытанне. Ён хацеў гэтую работу рабіць як хрэстаматыю. Але мы не можам фінансаваць падручнікі, для гэтага ёсць спецыяльная частка фінансавання, якую размяркоўвае міністэрства. Цяпер, калі дацэнт Кароткі надаў гэтай рабоце больш навуковы накірунак, мы будзем разглядаць яе не з адмоўным настроем, а якраз наадварот. Я думаю, што такую працу было б лепш рабіць сумесна з нашымі гісторыкамі, паколькі яна не чыста філалагічная.

*— А як з дадатковымі сродкамі на навуковыя работы, звязаныя менавіта з беларускай тэматыкай?*

— Чаму б філалагічнаму факультэту не выступіць увогуле ініцыятарам рэспубліканскай праграмы Адраджэння? Паколькі гэтае пытанне вельмі актуальнае, то яны маглі б прафінансавацца Вярхоўным Саветам, Міністэрствам адукацыі. Але для гэтага трэба зрабіць добрую праграму. Белдзяржуніверсітэт — флагман навукі, дык няхай бы філфак даказаў, што ён флагман філалагічнай навукі. Але дзе ж навука? За што плаціць? Тым не меней мы ўсё ж фінансуем. У 1993 годзе на фінансаванне філалагічнай навукі выдзелена 20 мільёнаў 440 тысяч рублёў. З іх на тэмы: «Замежная літаратура ў кантэксце беларускай культуры. Рэцэпцыя, сувязі, тыпалогія» (навуковы кіраўнік прафесар Шаблоўская, кафедра замежнай літаратуры) — 2 мільёны 400 тысяч рублёў, «Літаратура Рэспублікі Беларусь на сучасным этапе» (навуковы кіраўнік прафесар Лойка, кафедра беларускай літаратуры) — 2 мільёны рублёў, «Структура, функцыі беларускай мовы на розных этапах яе развіцця» (навуковы кіраўнік прафесар Шакун, кафедра беларускай мовы) — 2 мільёны рублёў. Адпушчаны фінансавыя сродкі на навуковыя працы ў лабараторыі беларускага фальклору і дыялекталогіі ў агульнай суме 9 мільёнаў рублёў і ў лабараторыі тэарэтычнай і прыкладной лінгвістыкі (кіраўнік доктар філалагічных навук Карпаў) у суме 5 мільёнаў рублёў. Вось і ўся фінансуемая філалагічная навука. Калі мы разгледзім іншыя прапановы, то ўзровень прац і выданні, якія яны публікуюць, не заўсёды адпавядаюць патрабаванням фундаментальнай навукі. Вельмі лёгка скампраметаваць ідэю адраджэння беларускай мовы, калі рабіць справу на недастаткова глыбокім узроўні.

*— А як з міністэрскім фінансаваннем на 1994 год?*

— На міністэрскі конкурс універсітэт падаў каля 90 прапаноў. Філфак у тым ліку толькі... адну. Вось так. Грошы мець жадаюць, а прапаноў няма. На універсітэцкі конкурс таксама філфак падаў тры прапановы, з іх дзве рускамоўныя. Дык што фінансаваць? Ні адна добрая прапанова філфака не была не прафінансавана. Я магу заявіць гэта з поўнай адказнасцю. І ніхто з філалогіі ў нас Папялушкі рабіць не збіраецца.

Распытвала
Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.

P. *S*. Рэдакцыя не стала каменціраваць выказванні высокапаважаных суразмоўцаў свайго карэспандэнта. Чытачы самі могуць зрабіць пэўныя высновы, прааналізаваўшы тэксты інтэрв'ю. Адно тут бачыцца імператыўным — да беларускай філалогіі, улічваючы сучасны стан нашага грамадства, трэба адносіцца вельмі адказна.

# З АГНЮ ДЫ Ў ПОЛЫМЯ
## (гісторыя адной судовай справы)

Адразу, калі «вызваленчы» паход Чырвонай Арміі 17 верасня 1939 года прывёў да ўсталявання ў Заходняй Беларусі Савецкай улады, замест жаданых і абяцаных «свободы, равенства и братства» чырвонаармейцы на сваіх штыках прынеслі заходнім беларусам шмат гора, слёз і крыві. Заходнікі трапілі з агню ды ў полымя: замест польскага нацыянальнага прыгнёту тут усталяваўся сталінскі гвалт і здзек над людзьмі. Толькі ў маленькай Вілейскай вобласці за першы год Савецкай улады па палітычных матывах было арыштавана і асуджана 1634 чалавекі. Спіс гэтых ахвяр захоўваецца ў філіяле Дзяржархіва Менскай вобласці, які знаходзіцца ў Маладзечне. Дарэчы, гэты філіял цяпер размешчаны ў будынку былой турмы. Па збегу абставін справы бязвінных вязняў захоўваюцца тут у змрочных сутарэннях колішніх камер, якія яшчэ памятаюць кроў і слёзы закатаваных. Шмат звестак пра лёсы асуджаных жыхароў Вілейшчыны змешчана і ў кнізе У. Адамушкі і Н. Івановай «Помилуйте...», выдадзенай у 1992 годзе Галоўным архіўным упраўленнем пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Ужо маючы вялікі вопыт, сталінскія апрычнікі толькі чакалі зручнага выпадку, каб зноў заняцца сваёй звыклай, крывавай справай у гарадах і вёсках Заходняй Беларусі. Тутэйшая нацыянальная інтэлігенцыя, якая столькі нацярпелася ад польскага прыгнёту, трапіла пад яшчэ больш страшны і жудасны гвалт.

Перада мною толькі адна справа з маладзечанскага архіва, паводле якой можна прасачыць бядотны лёс беспадстаўна асуджанага і цяпер рэабілітаванага беларускага настаўніка з вёскі Занарач Мядзельскага раёна Восіпа Аляксандравіча Шведа.

Справа пачынаецца з пастановы на арышт.

*«ПОСТАНОВЛЕНИЕ*
*(на арест)*

*гор. Мядель, 20 июля 1940 г.*

*Я, стар. оперуполномоченный Мядельским Райотделом НКВД СССР Азаренок, рассмотрев поступившие в НКВД материалы о преступной деятельности Шведа Осипа Александровича, 1911 года рождения, уроженца дер. Занароч Занарочанской волости, по положению служащий, белорус, обр. среднее, состоял в национал-фашистской организации ТБШ (Товарищество белорусской школы), проживает в дер. Занароч Мядельского района.*

*НАШЕЛ:*

*что Швед О. А. при бывшей Польше являлся руководителем национал-фашистской организации ТБШ, принимал активное участие в проведении в белопольский сейм националистически настроенных депутатов, имел тесную связь с б/польской полицией. В настоящее время проводит антисоветскую деятельность путем собрания коллективных подписей от граждан на ходатайство об освобождении от стражи б/попа Занарочанской церкви, арестованного органами НКВД.*

*На основании изложенного*

*ПОСТАНОВИЛ:*

*Шведа Осипа Александровича, проживающего в дер. Занароч, того же с/с Мядельского района, подвергнуть аресту и обыску*
*Следователь*
*ст. сержант г/без. (Азаренок)»*

На падставе гэтага дакумента 20 студзеня 1940 г. В. А. Швед быў арыштаваны і накіраваны ў Вілейскую турму. Абвінавачае заключэнне па справе Шведа фактычна паўтарала пастанову на арышт. На допыце Восіп Аляксандравіч вінаватым сябе прызнаў (вымусілі ці спадзяваўся апраўдацца на судзе — вядома толькі яму). У верасні 1940 г. допыты былі закончаны і справа была накіравана на разгляд Асобай нарады пры НКУС СССР. Прыцягвае ўвагу даведка да заключэння, дзе, у прыватнасці, гаворыцца: «...рэчавых доказаў па справе няма...»

У час знаходжання Шведа В. А. пад следствам у пракуратуру Вілейскай вобласці паступілі заявы ад занарачанскай моладзі, ад сялян, ад яго жонкі і бацькі, якія, добра ведаючы настаўніка, суседа, мужа, сына, верылі, што чалавек ён сумленны і спрабавалі пераканаць у гэтым следчых.

*«Пракурору Вілейскай вобласці г. Вілейка ад моладзі Занарачанскага с/с і вёскі Занарач*

*Дня 21 ліпеня 1940 г. быў арыштаваны Восіп Аляксандравіч Швед, настаўнік вёскі Занарач Занарачанскага с/савета.*

*Вышэй названага настаўніка мы ўсе добра ведаем, вучыў нас 3 гады і праз гэтыя 3 гады ўся яго дзейнасць прысвечана сялянству. З прыходам Савецкай улады ён сумленна працаваў на карысць Саветаў. Ніхто моладдзю не зацікавіўся, мы кінуты былі самі сабе. Ен нас зімою вучыў беларускай мове на вячэрніх курсах, таму што мы былі неадукаванымі, ён не шкадаваў сваёй працы, седзячы ў школе з намі па тры гадзіны ў дзень.*

*Дзякуючы яму, мы навучыліся пісаць і чытаць на роднай мове.*

*Ен нам чытаў і тлумачыў беларускія газеты, часопісы, як жыве моладзь у Саветах, як з нас кожны можа вучыцца і дабіцца лепшага жыцця. Ен нас навучыў савецкім песням, падрыхтаваў з намі беларускую п'есу, якую мы паказалі не толькі ў сваёй вёсцы,*

*але яшчэ і паехалі з ёй у Мядзель. Зробленыя грошы мы аддалі на падпіску беларускіх газет і часопісаў, упрыгожванне Чырвонага кутка, таму што не было адкуль узяць на гэта сродкі. Ен не шкадаваў сваёй працы. На кожнае свята, як 60-годдзе таварыша Сталіна, 1 Мая і іншыя, ён нас рыхтаваў і мы смела выступалі перад народам як савецкая моладзь, якая гатова заўсёды абараняць сваю Радзіму, растлумачваў Канстытуцыю... Вось і ўся дзейнасць нашага кіраўніка. Дык чаму ж ніхто намі не зацікавіўся і сёння мы засталіся, як сіраты? Ен будаваў нам дружную школу, у якой будуць вучыцца нашы браты і сёстры. Ен вучыў дапрызыўнікаў, каб мы пайшлі ў Чырвоную Армію граматнымі. Гэта закалола ў вочы тым, якія зусім нічога не рабілі, якія глядзелі на нас, як на зусім непатрэбных людзей. Ім было ўсёроўна, як жыве моладзь і чым яна занята, і калі б не наш настаўнік, мы сёння былі б зусім не толькі не адукаванымі, але нават бескультурнымі. Просім Савецкую ўладу разгледзець заяву на месцы, у Занарачы, дапрасіць моладзь, бо яна з'яўляецца будучнасцю нашай краіны і не верыць тым, каторым Швед з сваёй сумленнай працай быў нявыгадны, так як гэтым хлуслівым даносчыкам не хочацца пакласці столькі працы, колькі яе паклаў нам Восіп Аляксандровіч Швед для ўмацавання Савецкай улады».*

*Подпісы.*

*«Да пракурора Вілейскай вобласці ў г. Вілейка*

*Мы, сяляне вёсак Палуяны, Ашковічы, Прудзікі Мядзельскага раёна, сведчым, што ведалі сацыяльнае паходжанне Шведа Восіпа Аляксандравіча ад нараджэння. Гэта бядняк, беззямельны селянін-парабак. Адукацыі дабіўся сам праз сябе, галадаючы. Палітычны ўрон нікому не чыніў».*

*Заяву падпісалі 49 чалавек.*

На ўсе хадайніцтвы намеснік абласнога пракурора адказваў прыкладна аднолькава: «...считаю, что Швед О. А. арестован правильно, поскольку в его деле имеется состав уголовного преступления, а посему в... просьбе об освобождении из-под стражи Вам отказано».

Асабліва доўга стукала ў дзверы розных савецкіх устаноў жонка Восіпа Аляксандравіча — Ганна Усцінаўна. Яна прыязджала да пракурораў розных узроўняў, пісала пісьмы. У верасні — лістападзе 1940 года яна пасылае ў пракуратуру Вілейскай вобласці просьбы, у якіх просіць паведаміць: ці быў суд над мужам, ці можна яму перадаць бялізну, вопратку, грошы.

У лютым Ганна Усцінаўна звяртаецца ў рэспубліканскую пракуратуру з заявай, дзе піша: *«...Ужо восьмы месяц, як пра яго не маю ніякіх звестак. Я ўяўляю, што Швед Восіп адбывае пакаранне ні за што. На настаўніцкай нарадзе ў Мядзелі прадстаўнік абкама партыі з Вілейкі сказаў, быццам Швед быў контррэвалюцыянерам, але гэта няпраўда... Швед Восіп быў з ...сялянскай сям'і. Бацька яго — беззямельны парабак з в. Прудзікі Мядзельскага раёна. З малых гадоў Швед быў пастухом, але дзякуючы сваім здольнасцям да навукі яму ўдалося закончыць сямігодку ў Мядзелі, у якую хадзіў 10 км са сваёй вёскі. Настаўніцкай адукацыі дабіўся сваёй працай, вучыўся, халодны і галодны, зарабляў сабе на харч прыватнымі ўрокамі. І з такой працай яму ўдалося закончыць настаўніцкую семінарыю ў 1934 годзе. У 1935 годзе працаваў бясплатна на настаўніцкай пасадзе ў школе ў Паставах, бо сярод настаўнікаў было вялікае беспрацоўе. У Занарачы да прыходу Савецкай улады працаваў толькі 2 гады. Сам з бедняты, добра разумеў патрэбы бедных сялян. Праз два гады сваёй работы нікому не рабіў ніякай шкоды, наадварот, дапамагаў усім, чым мог. Пра гэта скажа кожны селянін... Я прашу, пракурор, дапамажыце мне даведацца, дзе знаходзіцца мой муж і на колькі яго пасадзілі? 26.02.41 г.»* Пракурорскі адказ быў такі:

«На Ваше заявление сообщаем, что дело Вашего мужа Шведа О. А. следствием окончено и направлено по подсудности на рассмотрение. 27.03.41 г.»

Апошні дакумент у справе — ліст самога Восіпа Аляксандравіча з Вілейскай турмы, накіраваны пракурору вобласці 25 траўня 1941 года, у якім аўтар просіць паскорыць разгляд яго справы ў абласным судзе.

Такім чынам, беспадстаўна арыштаваны настаўнік амаль цэлы год сядзеў у турме без суда і следства. У адказ на чарговы зварот Ганны Усцінаўны ў абласную пракуратуру з просьбаю паведаміць ёй пра вынікі разгляду справы мужа, адтуль прыйшло пісьмо, датаванае 31 траўня 1941 года: «Следственное дело по обвинению Шведа О. А. направлено на рассмотрение Особого Совещания НКВД 23.11.40 г., результат еще не известен».

Пра далейшы лёс настаўніка я даведаўся ад Ларысы Іосіфаўны Кішко — дачкі Восіпа Аляксандравіча: *«Мая маці, Ганна Усцінаўна Швед, перад самым пачаткам Вялікай Айчыннай вайны даведалася, што вязняў Вілейскай турмы вывезлі ў Плешчаніцы і расстралялі. Разам з бацькам і суседам яны нанялі падводу і паехалі ў Плешчаніцы, каб забраць цела і пахаваць яго дома. Там яны ўбачылі жахлівую карціну. Целы вязняў былі скінуты ў бульбяныя ямы і ледзь-ледзь прысыпаны пяском. У многіх рукі былі звязаны калючым дротам. Пераварочвалі, плакалі над імі, але цела бацькі так і не знайшлі. Хоць і невялікая, але жыла яшчэ надзея: а можа, жывы? І зноў, ужо ў першы год вайны, нашую сям'ю ўскалыхнула раптоўная вестка. Прынёс яе былы вязень, які сядзеў у турме разам з бацькам. Ён расказаў, што калі пачалася вайна, іх пагналі этапам ў глыбіню Расіі. Астатніх расстралялі ў Плешчаніцах. Бацька застаўся жывы цудам. Кожны дзень вязняў выклікалі на расстрэл. Калі аднойчы назвалі яго прозвішча, Швед не адгукнуўся. — Гэты сам здох,— заўважыў ахоўнік. Турэмны наглядчык пацвердзіў, што раніцай з гэтай камеры сапраўды забіралі мерцвякоў. Былы вязень прыгадаў, што бацька меў цудоўны голас, хораша спяваў беларускія народныя песні і, каб неяк падтрымліваць у вязняў настрой, арганізоўваў у камеры спевы. Калі ж у першыя дні вайны асуджаных пачалі пераганяць у тыл, яны трапілі пад бамбёжку. Магчымасць уцячы скарыстаў вязень, які прынёс вестку пра майго бацьку. Ён агітаваў на ўцёкі і бацьку, але той адмовіўся, сказаў, што немцы яшчэ горшыя за Саветы.*

*У 1946 годзе мы праз Чырвоны Крыж раптам атрымалі пісьмо з Турцыі ад бацькі. У ім ён і расказаў пра свой далейшы лёс. Высветлілася, што калі Андэрс пачаў збіраць у Расіі армію з польскіх вайсковапалонных і вязняў, бацька запісаўся палякам, трапіў з сталінскага лагера ў польскае войска. На параходзе іх вывезлі ў Афрыку, затым — у Італію. У пісьме ён прыгадваў пра цяжкія баі пад Монтэ-Касіна, радаваўся, што ні адна куля не зачапіла яго.*

*Шчаслівая маці аббегла ўсіх знаёмых з гэтым пісьмом. Але не доўгай была яе радасць. Пачаліся допыты ў міліцыі, начныя выклікі ў органы дзяржаўнай бяспекі. Ёй даводзілі, што бацька нібыта стаў англійскім палкоўнікам і шпіёнам. З дня на дзень мы чакалі, што нас таксама арыштуюць. Пісаць пісьмы бацьку было боязна і небяспечна. І маці, перамагаючы сябе, звярнулася да бацькі з неверагоднай просьбай: прысылаць нам пасведчанне аб яго смерці. А бацька жыў у той час у Лондане. Там, на чужыне, закончыў медыцынскі, а затым і політэхнічны каледж. Жыве там і зараз».*

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

## *Весткі з Віленшчыны*

У канцы мінулага года ананімна ў газеце «Вечерний Минск» быў надрукаваны артыкул «Под вывеской ТБМ», дзе выстаўляецца ў адмоўным сэнсе дзейнасць Таварыства беларускай мовы Віленскага краю. Цяпер стала вядома, што гэта ініцыятыва віленскай суполкі «Сябрына». Кіраўніцтва ТБМ Віленскага краю накіравала лідэрам «Сябрыны» пісьмовы пратэст. Адпаведны ліст накіраваны і на адрас рэдактара газеты «Вечерний Минск», у якім таксама выказваецца здзіўленне, як пасквільны матэрыял рэдакцыя адважылася надрукаваць нават без подпісу, узяўшы такім чынам усю адказнасць за змест на сябе.

У горадзе Коўна створана суполка беларусаў «Тевіне» («Радзіма»), якая зарэгістравана ў гарадскім самакіраванні. Кіраўніком яе з'яўляецца інжынер, выпускнік БПІ Васіль Казлоўскі. Гарадскія ўлады папярэдзілі аднак, каб гэтая суполка не ўваходзіла ні ў якія аб'яднанні ні з Вільняй, ні з Менскам, заявіўшы: «У нас свае праблемы, а там свае». Нават умяшаліся ў вызначэнне назвы суполкі.

* * *

Гарадскія ўлады Вільні прынялі пастанову аб ужыванні дзяржаўнай (літоўскай) мовы ў назвах вуліц, прадпрыемстваў і г. д., дзе прадугледжана, каб надпісы былі толькі на літоўскай мове.

**Рада ТБМ Віленскага краю са студзеня 1994 г. наладжвае курсы па вывучэнні беларускай мовы, літаратуры і гісторыі для беларусаў, выпускнікоў віленскіх школ, якія паедуць вучыцца ў вышэйшыя навучальныя ўстановы і тэхнікумы. Работа курсаў будзе наладжана ў бібліятэцы «Крынічка» пры ТБМ Віленшчыны.**

**Інфармацыйная служба ТБМ Віленскага краю.**

 



## *Гісторыя Айчыны — вайскоўцам*

# Беларусы: палітычнае і эканамічнае жыццё ў складзе Расійскай імперыі

## (канец XVIII – сярэдзіна XIX ст.)

*Заканчэнне. Пачатак у № 52, 1993 г., № 1, 1994 г.*

У канцы 50-х гадоў утварылася першая расійская рэвалюцыйна-дэмакратычная арганізацыя «Зямля і воля». Сувязі з ёю падтрымлівалі тайныя гурткі, створаныя ў навучальных установах Пецярбурга ўраджэнцамі Беларусі, Літвы і Польшчы.

У канцы XVIII ст. Беларусь заставалася амаль не вывучаным рэгіёнам. Не было даследаванняў аб мове, вуснай народнай творчасці, матэрыяльнай культуры, этнічных межах рассялення беларусаў, гісторыі краю. Не існавала нават адзінай назвы народа і краіны. На той час назва «Беларусь» замацавалася толькі за ўсходнімі губернямі — Віцебскай і Магілёўскай, у асобных публікацыях да іх далучалі і Смаленскую губерню. Цэнтральная і заходняя — Менская, Гродзенская і Віленская губерні — называліся «Літвою», а іх насельніцтва — «ліцвінамі». Сацыяльныя вярхі грамадства і мясцовая інтэлігенцыя былі паланізаваны, у грамадска-культурным жыцці краю панавала польская мова. Таму многімі прадстаўнікамі расійскай інтэлігенцыі Беларусь успрымалася як частка Польшчы. Непісьменныя ў пераважнай большасці масы працоўных не ўсведамлялі сябе адзіным этнасам. На іх этнічнай самасвядомасці адбівалася веравызнанне. Праваслаўе ўспрымалася як «руская вера», а каталіцтва — як «польская». Адпаведныя ідэі праводзілі ў сваёй дзейнасці царква і касцёл.

Расійская афіцыйная навука ўзброіла Кацярыну II ілжывым тэзісам «Отторженное возвратих», які зыходзіў з вялікадзяржаўнага погляду на Беларусь як на гістарычнае ўладанне — спадчыну расійскіх манархаў і на беларусаў як на частку велікарускага народа, «сапсаваную» польска-каталіцкімі ўплывамі. З другога боку, польскія вучоныя імкнуліся тэарэтычна абгрунтаваць погляды польскай і апалячанай беларускай арыстакратыі на Беларусі як на частку Польшчы. Яны разглядалі беларусаў як этнаграфічную групу польскага народа.

Супраць вялікадзяржаўных расійскіх і польскіх поглядаў на нашу Бацькаўшчыну і яе гісторыю выступала група прафесараў славістыкі, гісторыі і права Віленскага універсітэта — Міхаіл Бабройскі, Ігнат Даніловіч, Тэадор Нарбут, Іосіф Ярашэвіч. Яны асвятлялі гісторыю Вялікага княства Літоўскага з патрыятычных, літоўска-беларускіх пазіцый, выказваліся за аднаўленне самастойнасці ВКЛ і вяртанне дзяржаўнага статуса старабеларускай пісьмовай мове, лічылі уніяцтва нацыянальнай верай беларускага народа і звязвалі з яе адраджэннем пераадоленне супрацьстаяння на Беларусі праваслаўя і каталіцызму.

Значны ўклад у гістарычнае краязнаўства Беларусі ўнеслі графы браты К. і Я. Тышкевічы, ураджэнцы Лагойска, а таксама гісторык, вайсковы тапограф, генерал-маёр Генеральнага штаба расійскай арміі М. В. Без-Карніловіч, ураджэнец Магілёўскай губерні. Шмат зрабіў для развіцця культуры і навукі Беларусі Адам Кіркор — этнограф, археолаг, гісторык, літаратар, публіцыст і выдавец. У 40-х — сярэдзіне 60-х гадоў вакол яго выданняў у Вільні гуртавалася беларуская інтэлігенцыя. У папулярызацыі ведаў пра Беларусь і беларускі народ у розных пецярбургскіх перыядычных выданнях значную ролю адыгралі шматлікія публікацыі П. Шпілеўскага. Ён жа склаў слоўнік і граматыку беларускай мовы. Аднак Расійская акадэмія адвергла апошнюю, спаслаўшыся на тое, што «дыялекты не могуць мець уласных граматычных катэгорый».

У 30—60-я гады XIX ст. сярод прагрэсіўных вучоных славянскага свету, у першую чаргу рускіх і ўкраінскіх, пашыралася прызнанне факта існавання самастойнага беларускага этнасу. Да ліку такіх вучоных адносіліся расійскія рэвалюцыйныя дэмакраты А. І. Герцэн, М. А. Бакунін, М. П. Агароў, М. А. Дабралюбаў. У сваіх праграмах стварэння славянскай федэрацыі яны вызначалі для Беларусі статус, раўнапраўны з Расіяй, Украінай, Польшчай, Чэхіяй і іншымі славянскімі краінамі.

Старая беларуская літаратурная мова — мова выданняў Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага, Статутаў Вялікага княства Літоўскага — у другой палове XVII — XVIII ст. фактычна адышла ў нябыт. Паступова на аснове народнай гутарковай мовы складвалася новая літаратурная мова. Надзвычайна цяжкай ва ўмовах адсутнасці нацыянальнай школы, беларускіх газет і часопісаў была праблема друкавання і распаўсюджання беларускіх твораў. Многія з іх гадамі распаўсюджваліся ў рукапісах, гублялі імя аўтара і часта гінулі самі.

Тыповымі высокамастацкімі творамі новай беларускай літаратуры з'яўляюцца ананімныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Першая з іх была напісана ў 10—20-я гады, другая, верагодна, не пазней сярэдзіны 50-х гадоў XIX ст. Вобразы антычных багоў паказаны ў іх у выглядзе звычайных грэшных людзей — паноў і сялян. Вельмі каларытна, з пункту погляду беларускага селяніна, абмаляваны іх характары, звычаі, заняткі, стравы і пітво (тыпова беларускія), а таксама ўзаемаадносіны.

Рамантыкамі па характары і накіраванасці творчасці з'яўляліся А. Міцкевіч, Я. Чачот, Я. Баршчэўскі, В. Дунін-Марцінкевіч, А. Рыпінскі, У. Сыракомля, А. Вярыга-Дарэўскі і іншыя выхадцы з апалячанай беларускай шляхты.

Найбольшы ўклад у развіццё новай беларускай літаратуры ўнёс В. Дунін-Марцінкевіч (1807—1884 гг.) — паэт, драматург, перакладчык, адзін з заснавальнікаў беларускага нацыянальнага тэатра.

Узровень беларускай архітэктуры першай паловы XIX ст. вызначалі панскія палацы, адміністрацыйныя і культавыя будынкі, а таксама крэпасці (Бабруйская, Брэст-Літоўская). Да ліку выдатных дасягненняў беларускага класіцызму ў архітэктуры адносяцца палац-сядзіба П. А. Румянцава ў Гомелі, панскія палацы ў вёсках Жылічы (Магілёўская вобласць) і Сноў (Менская вобласць). Пры палацах ствараліся вялікія пейзажныя паркі з ціяністымі алеямі, дзівоснымі альтанкамі і павільёнамі, мосцікамі, гротамі, сажалкамі, вадападамі і г. д.

У канцы XVIII — пачатку XIX ст. магнаты і шляхта Беларусі мелі ўласныя тэатры, аркестры, капэлы. Як правіла, пры гэтых тэатрах існавалі балетныя і музычныя школы, дзе рыхтавалі артыстаў з асяроддзя прыгонных сялян. Для работы ў тэатрах запрашаліся вядомыя заходнееўрапейскія музыканты, спевакі, дырыжоры. Утрыманне прыватных тэатраў каштавала вялікіх грошай. Іх не хапала нават у магнатаў. З гэтай прычыны прыгонныя тэатры ў першай палове XIX ст. зніклі.

У гарадах Беларусі ў той час прафесійныя спектаклі і канцэрты наладжвалі, як правіла, гастрольныя польскія трупы. Пасля паўстання 1830—1831 гг. адной з умоў іх выступленняў з'яўлялася патрабаванне рускамоўных спектакляў. Паступова пачашчаліся прыезды на Беларусь расійскіх і ўкраінскіх калектываў і асобных артыстаў.

У 40—50-я гады XIX ст. па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам В. Дуніна-Марцінкевіча нараджаўся беларускі нацыянальны тэатр. Ён ствараў лібрэта, п'есы, па якіх ставіліся спектаклі. У характарных ролях выступаў сам аўтар, які меў яркі камедыйны талент.

Выдатнымі беларускімі музыкантамі з'яўляліся браты Дамінік і Вікенцій Стафановічы. Шмат гадоў яны ўзначальвалі Менскі гарадскі аркестр. Вучнем Д. Стафановіча быў Станіслаў Манюшка, ураджэнец Меншчыны. Вядомы польскі кампазітар, ён разам з тым шмат зрабіў для станаўлення беларускай нацыянальнай музыкі. На лібрэта В. Дуніна-Марцінкевіча ім напісана опера «Сялянка», якая ў 1852 г. была ўпершыню пастаўлена ў Менску.

У выяўленчым мастацтве Беларусі першай паловы XIX ст. асноўнымі жанрамі з'яўляліся гістарычны і партрэтны. У той жа час развіваліся пейзажны і бытавы жанры. Найбольш вядомымі беларускімі жывапісцамі таго часу з'яўляліся Іосіф Аляшкевіч (1777—1830 гг.), Валенцій Ваньковіч (1794—1842 гг.), Ян Дамель (1780—1840 гг.), Іван Хруцкі (1810—1885 гг.).

**М. БІЧ**

**Тэкст скарочаны; матэрыял да друку падрыхтаваў Мар'ян ВІЖ.**

## *ЖЫЦЦЁ ТАВАРЫСТВА*

**Чатыры гады таму Вярхоўны Савет пад націскам нацыянальна свядомай часткі народа вымушаны быў пайсці на ўступкі — надаць беларускай мове статус адзінай дзяржаўнай мовы. Як выявілася, гэта быў звычайны палітычны манеўр — выйграць час. І вельмі хутка, спачатку ў расійскамоўных газетах, а пасля і ў Вярхоўным Савеце ўсё настойлівей былыя наменклатурнікі пачалі патрабаваць перагляду Закона аб мовах, правядзення рэферэндуму па гэтым пытанні.**

# ЗБЕРАГЧЫ ДУХ МОВЫ

Акадэмічныя навукоўцы, якія нямала прычыніліся да засмечвання мовы, не спяшаюцца ачышчаць слоўнікі ад русізмаў і неўласцівых беларусам формаў слоў. Спазняемся з рэформай правапісу, а ў створаную нарэшце Дзяржаўную камісію па правапісу запрошаны адно людзі з устаноў таго ж Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук. Разлік просты: тыя клеркі ад акадэмічнай навукі, якія нявечылі родную мову, паслухмяна, а то і з уласнай ініцыятывы выцяснялі матчына слова, не стануць на яго абарону. Хіба не паказальна, што сярод абаронцаў права роднай мовы быць адзінай дзяржаўнай мовай Беларусі, не было ніводнага доктара філалогіі. Затое дзяржаўнае двухмоўе акадэмікі абгрунтоўвалі. «Двухмоўнікі» ўведзены і ў Правапісную камісію. Адзін з членаў камісіі ўжо выказаўся ў друку адносна рэформы правапісу 1933 года — ацаніў яе як важны крок на шляху станаўлення літаратурнай мовы. І сёння, маўляў, трэба рухацца далей у гэтым самым накірунку. Дык чаго ж чакаць ад такой камісіі, сама назва якой гаворыць, што ніякай рэформы правапісу не будзе, а толькі «удакладненне». Нават не ўдасканаленне. А колькі гаварылі, засядалі! Але на каго мы спадзяваліся? На тых, хто адмаўляецца гаварыць на мове народа, урэшце, мове дзяржавы, інтарэсы якой павінны абараняць.

Менская гарадская Рада ТБМ лічыць, што неабходна правесці рэформу, а не ўдасканаленне правапісу, і прапануе ўвесці ў камісію людзей з іншымі, чым у навукоўцаў з Акадэміі, поглядамі на існуючую праблему — мовазнаўцаў Паўла Сцяцко, Вінцука Вячорку, Яўгена Лаўрэля.

Пры распрацоўцы правапісу захаваць адметна асаблівасці беларускай мовы, устойлівасць яе граматычнага ладу і фанетыка-арфаэпічнай сістэмы.

Сучасная беларуская літаратурная мова вельмі набліжана да жывой народнай мовы — яна фарміравалася на аснове гаворак. Таму яе дэмакратычны дух, самабытнасць, мілагучнасць не змагла цалкам знішчыць моўная рэформа 1933 года, праведзеная адміністрацыйным метадам у палітычных мэтах, дзеля набліжэння беларускай літаратурнай мовы да расійскай, дзеля русіфікацыі ўсяго беларускага жыцця.

Зразумела, што ўсе мы прызвычаіліся да існуючага напісання і ўсялякія новаўвядзенні «рэжуць» нам вуха. Але давайце не ўпадабляцца кітайцам, якіх змусілі заплятаць косы. Даўно кітайцы, не ў прыклад нам, сталі свабоднымі, а вось звычай насіць косы застаўся. Давайце думаць навырост, давайце атрасаць васальную залежнасць. І ў мове і ва ўсім пара ўжо вяртацца да свайго, да беларускага.

Прапануем:

1. Пашырыць склад камісіі.
2. Адлюстраваць на пісьме асіміляцыйную мяккасць, акрамя як у падоўжаных зычных: *зьверыць, сьнег,* але *галлё, Іллюк, палоззе, калоссе.*
3. Шырэй адлюстраваць адметную фанетычную з'яву беларускай мовы «аканне», пашырыць яе і пры напісанні іншамоўных слоў, напрыклад, літару *а* пісаць на канцы іншамоўных слоў (не пад націскам).
4. Правіла правапісу *е, ё, я* пашырыць на прыназоўнік *без,* часціцу *не.*
5. Спалучэнне *іо* перадаваць праз *іё* не толькі ў сярэдзіне слова, але і ў пачатку: *ён, Іёсіф.*
6. Уніфікаваць правапіс канчаткаў назоўнікаў: а) мужчынскага роду адзіночнага ліку ў родным склоне, аддаўшы перавагу форме з канчаткам -у: *Менску, заводу, тэксту, сказу;* б) роднага склону множнага ліку, аддаўшы перавагу форме з канчаткам -аў (-яў): *арцеляў, граняў, печаў, сенажацяў;* в) меснага склону множнага ліку мужчынскага і ніякага роду, аддаўшы перавагу формам з канчаткам -ох(-ёх) (пад націскам): *у садох, у гаёх, у лясох.*
7. Больш паслядоўна, чым у існуючым правапісе, прытрымлівацца заканамернасцяў роднае мовы ў дзеяслоўным словаўтварэнні: замест формаў *кантраліраваць, стымуліраваць, ануліраваць* пісаць: *кантраляваць, стымуляваць,ануляваць* (зняць варыянтнасць).
8. Замест апострафа пасля прыставак на *з* і перад коранем, які пачынаецца з ётавых галосных, пісаць *ь,* які будзе выконваць двайную функцыю: абазначаць мяккасць зычнага *з* і раздзельнае вымаўленне: *разьезд, зьяднаць.*
9. Пісаць без мяккага знака імёны па бацьку: *Аркадзевіч, Васілевіч, Арсеневіч.*
10. Пісаць устаўное *а* ў канцавых словазлучэннях зычных: *тэатар, тыгар, Аляксандар, Днепар, зубар, метар.*
11. Літару ў (нескладовае) пісаць пасля галосных ва ўласных імёнах: *на Украіне, ва Уладзівастоку,* у тым ліку і ў іншамоўных словах: *шоу, ва універсітэце, пакгауз, соус.*
12. Словы іншамоўнага паходжання пісаць так, як яны вымаўляюцца (і вымаўляюцца ў народзе і цяпер) і пісаліся да 1933 года і як яны вымаўляюцца ў тых мовах, з якіх прыйшлі: а) *газэта, камэдыя, Амэрыка, фанэтыка;* б) *марксызм, сыстэма.*
13. Рэформу правапісу праводзіць з улікам напрацовак Навуковай канферэнцыі па правапісу 1926 года і практыкі апошніх пяці-сямі гадоў.

Менская гарадская Рада ТБМ.
Прынята на пасяджэнні Рады 21.12.1993 г.

 




*Рубрыку вядзе*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Самабытна і ва ўсе часы свежа гучаць вершы англійскага паэта і празаіка Рэд'ярда Кіплінга (1865—1936)

Рэд'ярд КІПЛІНГ

### ЗАПЕЎ

Я еў з вамі хлеб і соль,
Піў вашу ваду і віно.
І вашыя смерць і жыццё
Маімі сталі даўно.

Дзе нешта было, каб я
Не з вамі быў хоць на міг,
Ці радасць ваша, ці сум,
Каб я не ведаў пра іх?

На ўцеху сытых пісаў
Аповесць пра вас як жарт,
Ды, мудрым, вядома вам,
Чаго жарт сапраўдны варт.

### ВАМПІР

Жыў дурань, маліўся з астатніх слоў
(Гэтак, як ты і я!)
На транты, на косці, на пук валасоў
(Што лічым жанчынай з сівых часоў),
Ды ён яе ў лэдзі чароўныя ўзвёў —
(Гэтак, як ты і я!).

*О, слёз пуды, маладыя гады,*
*І праца рук, і клёк мазгаўні*
*Належалі той, што не знала адна*
*(Мы ведаем, ведаць не прагла яна)*
*І не зразумела ані.*

І дурань аддаў ёй у забыцці
(Гэтак, як ты і я!)
І гонар, і веру, і ўсё ў жыцці,
(А лэдзі што — хоць ты ў пекла ляці)
Ён мусіць тропам сваім ісці
(Гэтак, як ты і я!).

*О, цяжкі кон і згублены плён,*
*І птушкі нязлоўленыя ў вышыні*
*Належалі той, што не знала адна*
*(Мы ведаем, ведаць не прагла яна)*
*І не зразумела ані.*

А дурань натхнёны чакаў дарма
(Гэтак, як ты і я!),
Што лэдзі заўважыць яго сама
(Ды што спрабавала — звестак няма),
Але зразумеў: настала зіма
(Гэтак, як ты і я!).

*І гэта не сораму ўрок, не папрок —*
*Апёк ад распаленай галаўні.*
*Пра гэта не ведала тая адна*
*(Даведацца б і не магла яна)*
*І не зразумела ані!*

***Пераклад з англійскай Рыгора БАРАДУЛІНА.***

# Па першацветаўскіх сцяжынках...

***Чыталі?***

За мінулы год на старонках «Першацвету» выступілі сто адзін паэт, пяцьдзесят празаікаў, дваццаць пяць крытыкаў. І дзякуй Богу, яны абышліся без палітычнай кан'юнктуры і «бульварных» тэм. Творам, каб стаць чытэльнымі, дастаткова аказалася мастацкасці.

Між іншым, зараз я стану інтрыганкай (у пэўным сэнсе). Гэта значыць, паспрабую ўцягнуць вас у плынь падзей адзінаццатага і дванаццатага нумароў часопіса.

Паэзія заўсёды ўладкоўваецца бліжэй да аблокаў, таму спектр твораў адзінаццатага нумара здзіўляе сваёй рознакаляровасцю. Вершы Т. Талерчык падаюць «кропелькамі дажджу» на стомленую душу, у той час як А. Гатальская прымушае думаць над алегорыямі. «Менскія санеты» І. Карповіча нагадваюць загадкавых незнаёмак, нязвыклая прыгажосць якіх прыцягвае позіркі знаўцаў. А. Петрушкевіч напявае аднекуль добра знаёмую мелодыю квітнеючых каштанаў і пялёсткаў півоняў. А побач па-мужчынску ўпэўнена гучаць радкі В. Слінко. У акружэнні Часу, Вясны і Восені чакае чытача З. Ціхановіч.

Цудоўны падарунак зрабіў чытачам С. Чыгрын, прадставіўшы ў «Повязі» «любові хмель вясьняны», якім зачароўвала Муза Алеся Дубровіча.

Наша Проза — спадарыня яшчэ больш непрадказальная, чым Паэзія. Так, абразкі У. Кліновіча і навелы А. Гуцава шмат у чым руйнуюць уяўленні аб беларускай літаратуры як аб «традыцыйнай». Апавяданні ж Л. Лукіянавай, вельмі шчырыя і пяшчотныя, нагадваюць астравок сярод плыннай рэчкі, дзе можна проста пасядзець і паглядзець у ваду. Цікавае ўражанне застаецца ад твора А. Векі. Тут ужо размова вядзецца не на ўзроўні «спадабалася ці не»; знаёмства з яго апавяданнем дапаможа вам у пошуках уласнай будучыні. На развітанне Проза з'яўляецца ў фантастычным адзенні апавядання С. Мінскевіча. Відовішча толькі для тых, у каго моцныя нервы.

Адчуваю павагу напалову са страхам да Крытыкі. Яна ў нас вельмі прадстаўнічая, як, напрыклад, у артыкуле Н. Вусавай, прысвечаным асноўным матывам беларускай графікі. Але часам дазваляе сабе добры і светлы позірк, якім пранізана рэцэнзія Т. Качан. Мужчыны ж, як заўсёды, заводзяць філасофскія спрэчкі, дзе кожны з іх мае рацыю і талент. На гэты раз глыбокі мастацкі аналіз кніг прапануюць В. Шніп і А. Ветах.

Калі ж вы стаміліся ад восеньскіх халадоў сярод зімы, запрашаем у нашу «Жароўню». Жарты пачатку стагоддзя, падрыхтаваныя А. Пашкевічам, і пароды А. Дылюка значна адрозніваюцца ад «таннага анекдота», наяўнасцю сапраўднага гумару і адсутнасцю «пікантных падрабязнасцей».

Унутранае жыццё дванаццатага нумара нагадвае незвычайную феерыю. Крылатыя вершы А. Пуставойценкі кружаць над «попелам і думкамі» М. Віча. В. Пазнякевіч святкуе Купальскую ноч, а для Н. Супей наступіў месяц Шэрань, у І. Сінкевіч жа адцвітае май каханнем. У «Гасцёўні» прыслухоўваецца да «тайны шэптаў, тайны гукаў, тайны слодычных абдымкаў» К. Жук.

Калі таямнічасць яшчэ можна «дараваць» вечным рамантыкам паэтам, то празаікам... С. Мандрык хаваецца ў цені агароджы, а ў гэты час Р. Коблаў у сваіх апавяданнях назірае за знішчэннем цывілізацыі.

На жаль, сучаснасць часам раптоўна становіцца спадчынай. Так атрымалася і з апавяданнем Васіля Хомчанкі «У тумане».

У Крытыкі — сур'ёзная размова з чароўнымі і ад гэтага не менш разумнымі Т. Бельскай і Т. Барысюк. Калі вы чакаеце жаночага шчабятання, то магу вам толькі паспачуваць, бо яго няма.

Г. Булыка з Э. Акулінам займаюцца «магіяй паэтычнага радка» ў «Гутарцы», а недалёка, у «Жароўні», А. Клімовіч і П. Іваноў будуюць сцэну для свайго дэтэктыўнага фарсу.

Асцярожна, бачыце, рака ўспамінаў. На беразе яе вас сустрэне Сяргей Новік-Пяюн са сваёй Памяццю.

А для тых, хто дабраўся да апошняй старонкі, У. Клімовіч падрыхтаваў нечаканы, і тым больш прыемны, сюрпрыз — прэмію перспектывы. Першая, дарэчы, была ўрачыста ўручана А. Гуцаву за яго навелы. Вам не здаецца, што наступным лаўрэатам будзеце вы? А мне думаецца, што гэта вельмі верагодна...

Ірына ШАЎЛЯКОВА.

# З палескіх крыніц

У кнігарні Слоніма набыў дзве кніжачкі Аляксея Філатава — «Расце ў жыце кветка» і «Ляхавецкая торба». Выдала іх малое дзяржаўнае прадпрыемства «Брэст-друк».

Першая кніжачка пабудавана на дзіцячым фальклоры. Аўтар запісаў на Палессі шмат калыханак, песень, прыгаворак, дражнілак, заклікаў і лічылак. Яны павінны дапамагчы дзецям і дарослым далучыцца да матчынай мовы, авалодаць багаццямі роднага слова. Паслухайце, як музычна і напеўна гучыць калыханка:

*Люлі-люлі люляшу,*
*Я дзіцятка калышу,*
*Нітачку звіваю,*
*Песеньку спяваю.*
*Што выведу нітку*
*Камару на світку,*
*Застануцца кончыкі*
*Камару на штончыкі.*

Другая кніжка гумарыстычная. Справа ў тым, што на Берасцейшчыне, як адзначае аўтар у прадмове, кожнаму, хто ходзіць пад сонцам, звычайна даюць мянушкі. Мала таго, часам жыхары ўсёй вёскі маюць адзіную агульную мянушку. Напрыклад, «Збуражскі бусел», ці «Ляхавецкая торба», ці «Асавецкая кошка». Што да паходжання «Ляхавецкай торбы», то гэта тлумачыцца проста. Ляхаўчане — землякі аўтара кніжкі (Маларыцкі раён), якія жылі і жывуць паводле прымаўкі: «Няхай лепш чэрава лопне, чым дабро прападзе». Таму, ідучы ў поле, лес, на луг ці балота, і нават у госці, яны заўсёды пакавалі сабе ладныя торбы...

Менавіта тут, на сваёй Берасцейшчыне, і запісаў гумар ад землякоў Аляксей Філатаў. А цяпер сабраў яго пад адну вокладку.

Галоўны герой «Ляхавецкай торбы» — дзядзька, якога нараклі Капшуком таму, што ён старанна ашчаджаў уласны тытунь і спраўна адбываліся з дзядзькам Капшуком і яго суседам Андрэевым, пададзены аўтарам у форме анекдатычных мініяцюр. Розны мастацкі ўзровень гэтых дасціпных смяшынак. Есць, несумненна, творчыя ўдачы. А ёсць і такія, што патрабуюць дапрацоўкі.

Да сказанага пра згаданыя кніжкі варта дадаць, што тыраж кожнай з іх дзесяць тысяч паасобнікаў.

г. Слонім. Сяргей ЧЫГРЫН.

## МАМА, ПАЧЫТАЙ!

*Алесь ПІСЬМЯНКОЎ*

### Прачынайся, коця-браце...

Прачынайся, коця-браце,
Ды хадзем грыбы збіраці.
На знаёмых росных сцежках
Нас чакаюць сыравежкі
(Не паблытай, як учора,
З ядавітым мухаморам!)
І агністая лісічка
Пад ігліцай свеціць знічкай.
Побач з ёю тры сястрычкі,
Тры сястрычкі-невялічкі.
Што ж ты дрэмлеш, коця-браце,
Ранак тупае па хаце
І трашчаць ужо сарокі,
Што мы соні-лежабокі.
На бярозавым узлеску
Баравік глядзіць з усмешкай.
Хоць з цябе амаль ён ростам,
А знайсці яго няпроста.
Пакідай жа цёплы ложак
Ды бяры лазовы кошык,
Свой адточаны сцізорак,
Сябра вернага Трызора...
Ты ж у нас не з лежабокаў —
Ты ўжо расплюшчыў вока.



### Малінавыя сны

Ні Алёшка, ні Максім
Не баяцца лютых зім.
Ад прастуды, ад ангіны
У іх ёсць збанок малінаў.
Мама кажа: «Да вясны
У іх малінавыя сны».




*Станіслаў ВАЛОДЗЬКА*

### Шчотка

Наша шчотка
Ледзь не плача:
— Як такое
Растлумачыць?
Тата ў кут паставіў Пецю,
Бо у хаце ён насмеціў.
А я сёння рана ўстала
І ў пакоях падмятала.
Дык мяне тады за што
Ён паставіў у куток?



# «З валошак блакіту...»

Сярод прадстаўнікоў беларускай літаратуры на Беласточчыне плённа працуе Міхась Шаховіч. Ён дэбютаваў у 1974 годзе на старонках газеты «Ніва».

А ў 1978 годзе ў Беластоку выйшла першая паэтычная кніга М. Шаховіча «Прамінанне». Пра змест зборніка дакладна сказаў у прадмове М. Тармасюк: «Ужо сам загаловак прадказвае настрой... Аўтар безупынна стараецца вяртацца ў мінулае, у свет прыгожага дзяцінства, стараецца... бегчы за касматымі вазамі сена, тануць у вячэрняй імгле. Але, на жаль, усё гэта толькі імглявы ўспамін. Бязлітасныя хвалі часу беспаваротна аднеслі човен чалавечага жыцця». Друкаваўся М. Шаховіч і ў калектыўных зборніках, і на старонках «Нівы». А стала працаваць у рэдакцыі гэтай газеты ён пачаў у 1975 годзе, перавёўшыся на завочнае аддзяленне універсітэта.

Нарэшце М. Шаховіч змог выдацца на Беларусі. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» нядаўна выпусціла яго зборнік «Кліч», змест якога склалі тры паэмы і больш за дзесятак вершаў.

Са згаданых паэм асабліва вызначаецца «Святая ноч», якой адкрываецца зборнік. Паэма прываблівае найперш дасканаласцю і выверанасцю радка, здатнасцю аўтара ствараць яркія і непаўторныя вобразы. Менавіта гэткая навізна, арыгінальнасць параўнанняў якраз і сведчаць, што перад намі Паэзія.

Безумоўна, часам М. Шаховіч дае залішнюю волю фантазіі. Тады ў яго з'яўляюцца непераканаўчыя вобразы, кідкія толькі пры першым знаёмстве. Калі ж уважлівей унікаць у сэнс сказанага, то відавочна і пэўная нацягнутасць, жаданне аўтара выглядаць арыгінальным.

Але не гэта асноўнае. І ў паэме «Святая ноч», і ў наступных — «Смерць валошкі» і «Святы лес» паэту ўвогуле ўдаецца паспяхова па-новаму перадаць разнастайны жыццёвы матэрыял. На першы план у яго выступае ўменне адчуць усю складанасць і супярэчлівасць і жыцця, і самога часу. Таму М. Шаховіч у пастаянным роздуме. І да глыбокага роздуму ён запрашае сваіх чытачоў.

Алесь МАРЦІНОВІЧ.

# БЕЛАРУСКАЯ ПАШТОЎКА Ў ЛАТВІІ

1893 1946



## Кастусь Езавітаў

Слаўны дзеяч беларускага Адраджэньня ў Латвіі

Латышскае таварыства беларускай культуры ў Рызе «Сьвітанак» выдала паштоўку, прысвечаную 100-годдзю з дня нараджэння Кастуся Езавітава — беларускага палітычнага дзеяча, асветніка і навукоўца латышскага паходжання. Паштоўка, у адрозненне ад шмат падобных выданняў, прызначана менавіта да выкарыстання ў сістэме сувязі, бо адпавядае прынятаму ў краі стандарту і мае подпісы на беларускай і латышскай мовах. Паводле словаў аўтара графічнага праекта мастака В. Целеша, гэта першае ў серыі запланаваных «Сьвітанкам» да выдання паштовак, прысвечаных тэматыцы беларускага Адраджэння.

У. ПАНАДА.

# У падтрымку «Нашага слова»

Шаноўная рэдакцыя «Нашага слова», шлём вам у падтрымку газеты свае сціплыя складкі суполкі за мінулы год.

Сябры суполкі ТБМ Маскоўскага раёна г. Менска Беларускага НДПІЭНЕРГАПРАМ: Мускі, Кузняцова, Кузьмін, Кажэкіна, Баброва, Ануфрыенка, Слемянёва, Аніська, Маёрава, Юрэвіч, Прыма, Глінько, Санковіч, Ермалаева, Пушкароў, Навадворская, Бахметава, Кляшчонак, Гурчонак, Кульгавая, Хаменка, Кацянкова, Клімец, Князева, Харачкіна, Асаевіч.

АД РЭДАКЦЫІ. ДЗЯКУЕМ ЗА ПАДТРЫМКУ.

# Народная лякарня

*Д. ДЖАРВІС:*
*Карысныя ўласцівасці бурых марскіх водарасцей*

*(Заканчэнне. Пачатак у № 2, 3).*

Карыснымі ўласцівасцямі бурых марскіх водарасцей Д. Джарвіс зацікавіўся тады, калі даведаўся, што іх ужываюць з лекавай мэтай — каб захаваць здаровым сэрца — жыхары горнай зоны Перу (Паўднёвая Амерыка). Аб гэтым яму паведаміў д-р Прайс, які лячыў абарыгенаў, адначыўшы, што яго пацыенты заўсёды мелі пры сабе торбачкі з гэтай раслінай, і абыходзіліся з ёю беражліва.

Неўзабаве Джарвіс паспрабаваў сам лячыць таблеткамі водарасці хворых на сэрца людзей. Вось як ён пра гэта расказаў: «У мой кабінет зайшоў пацыент, які перанёс некалькі сардэчных прыступаў. Гэта была пятніца, і я папрасіў яго прыйсці да мяне яшчэ раз, у панядзелак. Хворы сумняваўся, ці здолее гэта зрабіць, паколькі яму цяжка падымацца па лесвіцы з прычыны болю ў сэрцы. Ён скардзіўся на дрэннае самаадчуванне, на тое, што вымушаны ляжаць у ложку кожную раніцу, каб удзень хоць крыху быць актыўным. Я даў яму некалькі таблетак водарасці і параіў прымаць іх штодзённа падчас яды.

У наступны панядзелак пацыент прыйшоў і папрасіў мяне змераць пульс. Частата пульсу была 75 удараў у мінуту. Ён сказаў, што з таго часу, як прыняў першую таблетку водарасці, сэрца перастала балець. Падымаючыся па лесвіцы, ён на гэты раз не спыняўся і не адпачываў. Я пераканаў пацыента, што яму і надалей трэба прымаць таблеткі водарасці падчас кожнай яды».

Прафесар Карнельскага ўніверсітэта Кавано ўпершыню выкарыстаў таблеткі водарасці для лячэння пераломаў касцей. Даследуючы выпадкі іх дрэннага зрастання, ён высветліў, што прычына гэтай з'явы крыецца ў змяненні касцявой тканкі, што, на яго думку, сведчыла аб дэфіцыце ў арганізме мінеральных рэчываў. У такіх выпадках прафесар рэкамендаваў сваім пацыентам штодзённа ўжываць таблеткі водарасці. Добрыя вынікі з'явіліся вельмі хутка. Перыяд загойвання пераломаў скараціўся на 20 працэнтаў — гэта пры ўмове штодзённага ўжывання хворымі таблетак водарасці, якія садзейнічаюць накапленню кальцыю ў крыві.

З усяго сказанага можна зрабіць выснову, што патрэбы чалавечага арганізма ў мінеральных рэчывах можна цалкам задаволіць за кошт прадуктаў мора і асабліва за кошт водарасцей. Прымаючы па адной таблетцы водарасцей штодзённа (у нашых умовах таблеткі можна замяніць марской капустай), мы будзем садзейнічаць больш поўнаму задавальненню нашых патрэб у мінеральных рэчывах. Гэты просты і эфектыўны сродак устаранення стану мінеральнай недастатковасці, што развіваецца ў арганізме чалавека пры ўжыванні ежы, якая вырошчваецца на зямлі, даступны для ўсіх.

# Памяці Генадзя КАХАНОЎСКАГА

Пасля цяжкай хваробы заўчасна пайшоў ад нас Генадзь Аляксандравіч Каханоўскі, доктар гістарычных навук, краязнавец, руплівец на ніве адраджэння Бацькаўшчыны.

Генадзь Каханоўскі нарадзіўся 8 студзеня 1936 года ў вёсцы Дамашы Маладзечанскага раёна. У 1963 годзе скончыў Маскоўскі дзяржаўны педагагічны інстытут, працаваў настаўнікам гісторыі і беларускай літаратуры ў маладзечанскіх школах. З 1964 года — навуковы супрацоўнік, намеснік дырэктара, потым дырэктар Менскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне. З 1982 года працаваў старшым навуковым супрацоўнікам, спачатку ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук, а ў апошнія гады жыцця — у Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Ф. Скарыны АН Беларусі.

Ён быў адным з тых навукоўцаў, чыімі намаганнямі паўстала Беларускае краязнаўчае таварыства і па праву зрабіўся яго старшынёй. Спадчына Г. Каханоўскага — гэта працы па археалогіі, гісторыі, фалькларыстыцы, этнаграфіі, краязнаўству, музейнай справе, даследаванні па гісторыі гарадоў Беларусі і ахове яе гістарычных помнікаў. З дапамогай Генадзя Аляксандравіча ўстаноўлены помнікі, мемарыяльныя знакі і шыльды ў шматлікіх гістарычных мясцінах Бацькаўшчыны. У сваіх гістарычных творах ён аддаў належнае мноству папярэднікаў, такіх жа руплівых даследчыкаў роднага краю, вярнуў з небыцця забытыя імёны, адкрыў і ўвёў у навуковы ўжытак невядомыя раней дакументы з архіваў, бібліятэк і музеяў Беларусі і замежжа.

Г. Каханоўскі быў адным з тых беларусаў, якія адкрылі родны край усяму свету, у якасці ўдзельніка археалагічных, этнаграфічных, фальклярыстычных экспедыцый ён аб'ездзіў усю Беларусь, а родную Маладзечаншчыну ведаў, як ніхто іншы.

Як літаратуразнавец ён асвяціў цікавыя пытанні творчасці Я. Купалы, М. Багдановіча, Я. Коласа і іншых славутых пісьменнікаў, чыя творчасць з'яўляецца каштоўнейшай спадчынай беларускай літаратуры.

Усю творчую энергію душы аддаў гэты разнабакова адукаваны чалавек роднаму краю, і родная зямля яго ніколі не забудзе.

Выказваем сардэчныя спачуванні сям'і і блізкім Г. А. Каханоўскага.

*Сябры, аднадумцы, удзячныя чытачы таленавітых кніжак Генадзя Каханоўскага.*

Ілія МАРКАВІЧ

## АФАРЫЗМЫ

«Свабодна!» — чуецца голас з камеры.

Табуіраваная тэма — афарызм без слоў.

Пераможцы далёка ад мэты.

Што сабака ёсць сябар чалавека — гэта меркаванне чалавека, а не сабакі.

Унутраныя слабасці — гэта нашы ўнутраныя рэзервы.

Мабыць, і ў айчыны варта было б папытацца, хто які патрыёт.

Мяне пераканалі, што я не памыляюся.

Вораг на нашым баку.

Сатырык выдумляе тое, што бачыць.

Мяняюцца ролі, ды застаецца той самы рэпертуар.

Вядома, хто п'е, а хто плаціць. Невядома толькі, да якой пары.

Перад законам усе роўныя, але закон не перад усімі.

Хлусня — гэта кропка, дзе перасякаюцца дзве ісціны.

Пераклаў з сербскахарвацкай Іван ЧАРОТА.

# ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**26 СТУДЗЕНЯ, СЕРАДА**

17.10. Новаму часу — новыя людзі. Размова аб недзяржаўнай школе-гімназіі.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». «Пяць зорак». Тэлегульня.
20.00. ТА «Рэха». Крэда.
21.00. Панарама.
22.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**27 СТУДЗЕНЯ, ЧАЦВЕР**

16.05. Тэлебачанне — школе. Гісторыя Беларусі. Грамадска-палітычнае жыццё Беларусі ў сярэдзіне 40—50-х гадоў XX стагоддзя.
20.05. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
20.20. Студыя «Тэлесябрына». Каляднае рэха.
21.00. Панарама.
22.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**28 СТУДЗЕНЯ, ПЯТНІЦА**

13.50. «На шляху ў Берлін». Мастацкі фільм.
17.00. «Папараць-кветка». Шоу-віктарына.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.45. Шматгалоссе. Народы Беларусі: культура, гісторыя, традыцыі.
21.00. Панарама.
22.00. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**29 СТУДЗЕНЯ, СУБОТА**

11.15. «Таміра» прапануе. «Смерць манекеншчыцы». Мастацкі фільм.
14.45. «Мой маленькі поні». Мультфільм.
18.20. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок». Першы рэспубліканскі конкурс маладых палітыкаў. Паўфінал.
21.00. Панарама.
21.50. «Зоркі» на экране. «Рускі раман». Мастацкі фільм. 2- я серыя.

**30 СТУДЗЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

13.40. Беларусы ў Амерыцы. Перадача другая.
15.00. Шоу-TV «Тры апельсіны».
15.30. «Выхадкі ў старадаўнім стылі». Мастацкі фільм.
16.45. «Гінес-шоу».
17.15. КВЗ-94.
20.00. Панарама.
21.10. «Сінема» прадстаўляе: «Раса паноў». Мастацкі фільм (Францыя).

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 58

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.

Наклад 8900 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 24.1.1994 г. у 15 гадзін.